***Рагнед Малахоўскі*** – сучасны малады паэт, які працуе ў рэчышчы класічных літаратурных традыцый. У зборніку “Жыві!” аўтар гарманічна сумяшчае тэмы кахання і любові да роднага краю, філасофскую лірыку і тэму творчасці. Яскрава выражанае пачуццё рытму і мелодыкі, гарманічная кампазіцыя зборніка не пакінуць чытача абыякавым да паэтычнага радка.

“У творах Рагнеда Малахоўскага, вельмі сучасных па форме і асацыятыўнасці і адначасова заглыбленых у беларускі фальклор, ёсць непадобнасць да іншых паэтаў і няма аніякага “гена другаснасці”...

*Адам Мальдзіс*

“Рагнед Малахоўскі – паэт, які ўжо ў такім маладым узросце вызначыў свой шлях, як шлях прапаганды роднага слова, роднай культуры. Паэт валодае багатым вобразным мысленнем, у яго творах угледжваецца вялікі творчы патэнцыял”...

*Людміла Рублеўская*

“Рагнед Малахоўскі незвычайна разнастайны, як у тэматыцы сваіх вершаў, так і ў вершаваных формах. Па светаадчуванні паэт уяўляецца, як мінімум, больш сталым гадоў на дзесяць”...

*Юрась Нераток*

## Вясляр

*Алесю Бараноўскаму*

Белым лебедзем месяц плыве…
Я вяслую ў жаданыя далі.
У касмічнай чужой сіняве –
Сонных воблакаў мутныя хвалі.

Праз спакусы жыцця –
Напралом –
Я вяслую бадзёра, адчайна.
І рыпіць у напрузе вясло –
Будзіць возера даўнюю тайну.

Столькі думак аб вечным і кроз…
Набрыняла спакоем свядомасць.
Толькі лебедзь плыве,
Як мой лёс,
З невядомасці
У невядомасць.

* * *

Ценем затуманенага саду
Ціхі вечар вусны мне кране.
Я хмялеў ад рэха лістападу,
А яно смяялася з мяне.

Ля агню,
Што грэў душу шыпшыне,
Грэшны –
Шлях жыцця сваго знайшоў.
Па самотнай восеньскай сцяжыне
Я, нібы да споведзі, ішоў.

Ты насустрач крочыла, як мара.
Ты – спакуса,
Я – сляпы адчай.
Пад пажадным поглядам пажару
Аднаго мяне не пакідай.

Танчаць цені вогненнага саду,
Мой адчай спакуса не міне...
Стаць бы мне самому лістападам.
Ды ці зразумееш ты мяне?

**Шлях да цябе**

*Н. Н.*

За кратамі касмічнай цішыні
Твой голас чысты і недасягальны.
У чорнай, некранутай вышыні
Я страціў да каханай шлях астральны.

Блукаючы ўначы, і ў ясны дзень,
Знікаючы ў жыцці, як думак кола,
Убачыў, як надзей маіх прамень
Высвечваў з цьмянай шэрані анёла.

А багна слоў
Засмоктвае мой свет.
Правал у бездань.
Шлях святла не мае...
Ды недзе,
Сярод тысячы планет,
Мігціць твая –
Адзіная, жывая...

Мне вусны ценька горкі лёс кране
Засохлаю гартэнзіяй настрою,
Бо голас твой застаўся для мяне
За вечнасцю касмічнага спакою.

## Распятае каханне

Барвовай заранкай на вуснах ірдзее надзея,
Яе калыхаюць бясшумныя крылы вясны.
А ночы акраец пад чарамі зор палымнее,
Блакітам нябёсаў асвечаны мары і сны.

Глухія куты не пачуюць прыцішаны голас,
І здрада паточыць пачуцці, як вопратку моль,
Пасохнуць яны, як спякотай засмужаны колас,
Душу запалоніць нясцерпны, заслужаны боль.

Астыў на стале шэры прысак згарэлай лучыны,
І зоркі адбітак размыты у шклянцы вады.
Павыстылі сцюжна пачуцці і думы дзяўчыны,
У садзе кахання трымціць бадыллё лебяды.

Яе пачуццё мне распятае бачыць нязвыкла.
Пагляд абыякавы холадам сэрца кране.
Знявечана шчасце да смешнага дробным і прыкрым, –
Прысуд агалошаны. Сорам карае мяне.

## Песімістыка

Кавы глыток, міражовы дымок цыгарэты…
Шчырасць пачуццяў скрывіў безаблічны кураж.
Вечнага ззяння душы а ні зведаць паэтам,
Толькі трымценне яе – дасягальны міраж.

Кроплі спакою на ранішніх кветках свабоды
Як безвыходнасць прыняў, не хаваючы слёз.
Страчаны вобраз убачыць твой без перашкоды
Мне не дае ўсведамленне той страты
Ўсур'ёз.

Кветкі ранімага шчасця – пад шэранню пылу.
Межы рэальнага дня расплыліся ў вачах.
Мяккім крылом развярэдзіўшы боль мой астылы,
Памяць вяртае цябе ў дрогкі сон па начах.

* * *

У праменні зорнай цішыні
Горад за вакном даўно маўчыць.
І, забыўшы стомленыя дні,
Любая заснула на плячы.

У імгненнях мройна-залатых
Сам Анёл цябе мне паказаў.
Захмялеў я ад вачэй жывых,
Захмялеў, таму што пакахаў.

На арэлях золкіх тумаnoў
Нашы душы гушкаліся ў снах,
І пачуцці палымнелі зноў,
І акорды музыкі ў вятрах…

Горад па-ранейшаму маўчыць,
І здаецца – за спіною крылы.
Любая заснула на плячы –
Я шчаслівы.

## Ласунак

Ласунак лепшы
Для мяне –
Кропелькі
Ажынавага соку,
Што марамі
Шчаслівага юнацтва
Коцяцца па тваім
Бурштынавым целе.
А свежы водар
Ранішняга сонца
Зачароўвае сціпласцю
І непаўторнай цеплынёй.
Пяшчота прамянёў
Пераліваецца
З кропелькі ў кропельку,
І лёгкая,
Дрыготкая хваля
Працінае цела.
Сусвет –
Перад вачыма,
А смак яго
Ў мяне на вуснах.
І сэрцы дрыжаць
У радасці
Ап’янелай асалоды –
Кропелькі
Ажынавага соку.

* * *

Дыяментавым россыпам слоў
Ахінаю пачуцці твае.
Слёзны вечар адступіць ізноў,
Стане пылам раса на траве.

А душа мая помніць святло
Тых шчаслівых імгненняў з табой.
Мараў свет не згарае на тло,
Не пагасне кахання настрой.

Ціхім рэхам пражытыя дні
Адгукаюцца, быццам у сне.
Ты пяшчотай мяне ахіні,
Покуль цемра над намі засне.

Лёгкі дотык бялюткай рукі…
Тваё цела – як вершы Басё.
Пацалункі, нібы жаўрукі –
Для цябе.
Для цябе гэта ўсё.

Ахвярую пяшчоту і час,
Нежаданне паспешных высноў.
Хай памоліцца ранак за нас
Дыяментавым россыпам слоў.

* * *

Мой чорны парасон –
Акраец ночы –
Растане ў навальнічным даляглядзе.
Настане час,
Якога не захочаш
Ты бачыць у маім нямым паглядзе.

Мой чорны парасон –
Крыло анёла,
Што здрадзіў на зямлі адвечнай веры.
Грымотаў бой.
На твары мёртвы сполах.
За мной адчайна зачыняеш дзверы…

Мой чорны парасон –
Мой паратунак.
Падорыць ноч нявыплаканы сон нам –
Апошні развітальны пацалунак.

Іду апошні раз
Пад парасонам…

## Шчасце паасобку

Сэрца стыне –
Атрымаў твой ліст.
Іх цэлы стос
Марнуецца ў шуфлядзе.
З надзеяй адагрэць душу –
Кладу ў камін.
І толькі полымя
Засведчыць небу
Імгненні праўды,
Быццам напамін
Аб тым, што ёсць,
Аб тым, што будзе…

Цяплей не стала,
Але заранка
Заружавела
На халодных шчоках
Самотнай праўдай
Непадзеленых пачуццяў.

У полымі лістоў
Гарыць каханне.
Вогненная восень
Сагрэе нас
І наша шчасце
Паасобку.

* * *

Трывожная ноч –
Бясконцая
Эратычная фантазія,
Пранізаная таемнасцю
І неўтаймаванасцю пяшчоты,
Такая салодкая і ласкавая,
Сціплая і вогненна-шалёная,
Жорсткая і рамантычная…

Хто ты,
Мая спакусніца-незнаёмка?
Ты смела і нахабна
Увайшла ў мой гарачы сон
Багіняй чараўнічай ночы,
Каб я ў няволі д’ябальскае жарсці
І чараў ліхаманкава-туманных
Здрадзіў
Каханай.

Не спакушай мяне…
Не спакушай…
Спакушай…

**Беражніца**

Беражніца, багіня азёраў,
У прадонні густой цішы
Пахавай назаўсёды гора,
Зберажы скарб душы.

Беражніца, хімера паэта,
Наталіцца каханнем дай
І натхненне з свайго сусвету
Для мяне адшукай.

Беражніца, дзяўчына зямная,
Не цурайся, прэч не бяжы.
Твая цнота душу апякае.
Маладосць зберажы.

Беражніца.
Румяны заранкі
Асляпляюць красой жывой…
Калі ў сэрцы
Сумненняў маланкі,
Вір жыцця супакой.

Беражніца, вадзіца святая,
Жыццядайная моц твая.
Калі хваля бяжыць залатая,
Ачышчаюся я.

* * *

Я вярнуўся
З чужынных мясцін,
Болей лёс мой
Там крочыць не хоча.
Твае рукі –
На целе маім –
Як пяшчотныя хвалі Нарочча.

Мы пакрочым па ціхай вадзе…
Светлячок дыяментавай зоркі
Адзінокі па небе брыдзе
Асвятляць прыбярэжныя ўзгоркі.

Беражэ нас азёрны спакой
Ад спакусаў вірлівага свету.
Дакранешся адданай рукой
Да гарачага сэрца паэта.

У дыханні святой цішыні –
Надвячорак рубінава-росны.
Толькі падаюць зорак агні,
Дзе шумяць нарачанскія сосны.

**Янка Купала на Нарачы**

Ружы хваляў, паэзіі водар…
Ноч купальская свет ахінала,
І гучала мінуўшчыны ода –
Крочыў берагам Янка Купала.

Перашэптваў чарот яго крокі,
Здані вогнішчаў смутна ўздыхалі.
А паэта натхнялі аблокі,
Што паданне пра Нарач шапталі.

Задуменная поўня-каханка
Супярэчлівы шлях асвятляла.
У прыроды свая калыханка –
Захапляўся Нароччам Купала.

Прытуліліся сонныя сосны
Да загадкавай бездані млявай.
Ткалі вершы нябёсныя кросны,
І паэзія сталася явай.

Песню даўнюю голасам горкім
Беражніца на выспе спявала.
Над пачуццямі ўспыхвалі зоркі,
І шчаслівы быў Янка Купала.

* * *

*Максіму Танку*

Калі хмурнее волкі надвячорак,
Ці памятае сонца свой усход?
Над родным краем –
Неспакойны морак,
Бы ў іншы свет
Для грэшных пераход.

Я з гэтым неспакоем заручоны
І прагну кожны раз сюды вярнуцца,
Дзе час стварае ўласныя законы,
Дзе хвалі
Рытмам верша
Ў бераг б’юцца.

* * *

Далёкі бераг – паляўнічы нож –
Бязлітасна рассёк ваду і неба.
Барвовы вечар крочыць басаног,
І чайкі ўжо не клянчаць крошкі хлеба.

Пад ціхім небам стынуць ветракі.
Калышацца ў чароце нізкім човен.
Тысячагоддзі пад вадой звіняць замкі
На замку, што таемнасцямі поўны.

І песні беражніц не чутна ўжо,
Упала ніцма поўня сярод хваляў.
А колькі
Нема
З дна
Крычыць крыжоў,
Дзе хвалі столькі душаў пахавалі!

Калісьці прыйдзе шчасная пара
І зоркі ад жыцця адгоняць беды.
А над вадою – палымяная зара...
І толькі тут сустрэнуцца легенды.

* * *

Заліта поле сонечным віном,
Хаваюцца пабляклыя валошкі.
Камусьці шчасце грукаецца ў дом,
А хтосьці для сябе габлюе дошкі.

На босы дол вятрыска упадзе,
Калоссе і валошкі пералічыць.
Як людзі, адлюструюцца ў вадзе
Разгатыя дубы на папялішчы.

Над возерам, акрытым цішынёй,
Стаіць, як здань, пакінутая хата.
Камусьці жыць маркотнаю гульнёй,
А іншым пазіраць на лёс заўзята.

Развее вецер думак чараду,
Дзе мары, як віно, не маюць толку.
Аб чымсьці плача, гледзячы ў ваду,
Анёлак на валошкавым узгорку.

## **Памяць вады**

*Майму брату Дзянісу*

Вада запамінае нашы словы,
Вада запамінае нашы рухі.
Прамыць бы ёю нашыя галовы,
Пазбыцца б разам тлумнай завірухі.

Вада гарыць пад райскім небасхілам.
Паміж табой і мной –
Душа вады.
Наш час непадуладны тайным сілам.
Яму карціць быць вечна маладым.

Вада раве, шалёна вар'яцее,
Хвалюецца раздольная прастора.
Імгненні лёсу –
Каляровы веер,
Што ў мітусні нязморанага мора.

Праз тысячы гадоў паўстане Памяць,
Дзе голасу імгненні прагучалі.
«Так прагнеш жыць,
Калі цябе чакаюць», –
Прамовяць непакорлівыя хвалі.

* * *

Мая дваццаць першая восень
Кладзецца на волкія плечы
Вясёлкі над Нараччу роднай.

Грымотаў нябёсны аркестр
Вітае барвовае сонца
У далечы яснай і мудрай.

Па хвалях агніста-шыкоўных,
Пад ветразем лёгкай самоты
Мая адзінота вандруе.

На беразе дыхаць свабодна,
І больш не палохаюць цені
Грахоў і старога ядлоўцу.

У шатах шумлівага бору
Мой страх заблукае, растане
З цяплом навальнічнае хмары.

Шчаслівы, я сяду у човен
І рушу ў глыбіні прасторы
Сустрэць дваццаць першую восень.

*2005*

* * *

Жамчужына ў бурштынавай аправе,
Маё Нарочча,
Хто я
Без цябе,
Без захаду за салаўіным гаем
І успамінаў,
Як калісьці бег

Я хлапчуком
Па сцежцы верасовай
На бераг слухаць казкі чаратоў?
Плылі аблокі над старою хвояй…
І сёння да цябе прыйшоў я зноў.

Напевам паплыла душа па хвалях,
А мараў таямніца –
Як у сне.
Натхненне і дабро на зорных шалях
З маленства ты ахвяравала мне.

Каханнем пад сузор'ем беражніцы
Мяне адорыць ранішні спакой.
Кідаюць зоры срэбра
У крыніцы –
Лаўлю яго аддайнаю рукой.

…Шляхамі памяці на родны бераг
Не раз вярнуся песняй у журбе
З адданасцю, удзячнасцю і верай…
Маё Нарочча,
Хто я
Без цябе?

## Паланэз вяртання

*Яго з Радзімай развітанне*
*Ўва мне вяртаннем ажыло.*
*Мікола Мятліцкі*

Вяртаюся,
Нібыта прачынаюся
Пасля трывожна-жудаснага сну.
Няхай ён не паўторыцца ніколі!
Разбуджу
Сваёй прысутнасцю зару
І ўстрывожу
Непакорлівыя хвалі…
Паланэз вяртання
Агніста найграе
На чарацінах пругкіх
Беспрытульны вецер.
І ўсё забуду, што было,
Бо застанецца толькі
Бераг родны,
Які не раз бяздумна пакідала
Маё неўтаймаванае
(Па маладосці)
Сэрца,
Каб аднойчы
Мне здарожаным
Вярнуцца.

* * *

Дзе рачулка Нарачанка
Дрэмле ў хмелевым балоце,
Раптам пырхне чарацянка
Ды схаваецца ў чароце.

І чароўнасці сусвету
Акунаюцца ў бяздонне.
Легкакрылы подых ветру
Берагоў цалуе ўлонне.

Вечаровая заранка
Млее над азёрным краем.
Заспявала нарачанка,
Узвянчаўшы галаў маем.

## Агонь на далоні

Уцешна слухаць песню хваляў родных
Пад ліпамі нябёснай вышыні.
Каля крыніц вытокаў срэбнаводных
Лічу бяздумна страчаныя дні.

У шатах ночы пакланюся зорам.
Яны мудрэй мяне, шчадрэй святла
Запалкі той, што вогненным узорам
Цень д’ябла спапяляе ўміг датла.

А ці ўратуе неба ад нікчэмных,
Бяздумных і сухіх калекаў-слоў?
Імкнуся ў свет пачуццяў узаемных,
Ды толькі прачынаюся ізноў.

Я не зайздрошчу ўсім стварэнням Бога
І спачуваю ссохламу галлю.
Знікае ў хмарах зорная дарога,
Далонь цярусіць попел на зямлю.

* * *

*Небійку Дзянісу*

Дзе Радзіма, там хочацца жыць,
Дзе пакута – надзеі няма?
Добра там, дзе не трэба грашыць,
Дзе сумленная праўда адна.

Мы збіваемся з лёгкіх шляхоў,
Дзе зіхцяць маладыя гады.
Мы ідзём, покуль гордая кроў
Беражэ ад нязванай бяды.

Мы хаваем забіты адчай
У атруце людской мітусні.
Няхай ворагі плішчацца ў рай, –
Адлюструецца вечнасць у дні.

Між стыхійных няшчасцяў чужых
Адшукаем няшчасці свае.

Над галовамі снег закружыў.
Ён растане. Вясна запяе.

* * *

За Айчыну змагацца ідуць ваяры,
Немаўлятам матулі пяюць калыханку.
Быццам крылы анёла,
На стромкай гары
Туманеюць муры
Навагрудскага замка.

Іскрамётна
Увысь
Узняліся мячы,
І замерлі над грэшнай зямлёю нябёсы.
Ды ад лёсу свайго
Ваярам не ўцячы.
У агоніі б’юцца геройскія лёсы.

Звон у сэрцы
Пакутнай малітвай гучыць,
Ды цямнее да Боскага храма дарога.
Толькі зорка –
Адна на ўсё неба –
Зіхціць,
Як жывая душа
У слязіне Міндоўга.

Арашонае поле барвянай крывёй
У журбе асвятляе скупая заранка.
І лунае над замкам,
Над грэшнай зямлёй
Адзінокай матулі сівой
Калыханка.

## Матулі

У час, калі гаснуць агні
І мары спавіты спакоем,
Мяне да грудзей прыхіні
Сваёю пяшчотнай рукою.

Цень свечкі варожыць на сон,
Цікуе з-за воблака поўня.
Па хвалях душы срэбны звон
Плыве беражніцай на чоўне.

Я сны твае сэрцам прыму
Як голас святой Беларусі.
Начамі, калі не да сну,
На вобраз матулі малюся.

## **Полымя рабіны**

*Уладзіміру Маруку*

І няма даўно ўжо той краіны,
Дзе дарогі ўсе вялі да Храма.
Падыду да полымя рабіны
Праз белабярозавую браму.

Прыхінуся да ствала шчакою,
Заблукаюць думкі недзе ў кроне.
І стаіць рабіна прада мною,
Бы князёўна ў велічнай кароне.

Гэтыя чароўныя хвіліны
Ісціну нашэптваюць таксама,
Што ішоў да простае рабіны,
А прыйшоў –
Прасветлены –
Да Храма.

Галасы пачую ў кожнай гронцы –
Душы продкаў лучацца з прыродай.
Над рабінай хмары-абаронцы
Адганяюць беды і нягоды.

Так сустрэну вечар парыжэлы,
Каб забыць надзённыя турботы.
У дыханні ветрыку нясмела
Скалыхнуцца крыжыкі лістоты.

І на сэрцы болей не трывожна…
І падоўжу ўзнёслыя імгненні –

Пасаджу з пяшчотай, асцярожна
Цень рабіны на свае калені.

## Валун

Пад наглядам нялічаных лёсаў
Ва ўладаннях зямных Перуна
Разбіваліся слёзы нябёсаў
Аб маршчыністы лоб валуна.

Ён стаяў ля народнай святыні,
Ён святыню ад зла вартаваў,
У жыццёвай бязлітаснай плыні
Сваю мудрасць быцця гартаваў.

Так сплывалі сівыя стагоддзі
За крывавы ліхі небакрай.
І адвечна казалі ў народзе:
“Той валун
Беражэ ўвесь наш край.”

І шалелі вятры над Айчынай,
І не раз бушавала вайна.
І глыбелі крывыя маршчыны,
Што палеглі на твар валуна.

Сваёй верай ён можа сагрэцца,
Сваёй праўдай – дабро бараніць.
І пульсуе каменнае сэрца,
Покуль свет непахісна стаіць.

**Знясілены дождж**

Знясілены дождж уладарыць на цёплым асфальце.
Ён кроплямі лічыць хвіліны да нашага шчасця.
Ён справу завершыць маю. Я дажджу давяраю.
Жыццё – навальнічнае неба ад краю да краю.

Не трэба тлумачыць, чаму нам тужліва і змрочна.
У снах летаргічных заблытацца сёння нам можна.
Парою дасветнай на скронях сівое планеты
Знікаюць у часе бязважкім дажджынкі-манеты.

Знясілены дождж нібы просіць у нас прабачэння,
Што ён валацуга, лянівы. Ён стаў на калені.
Калі развінаюць нябёсы вільготныя крылы,
Нам дождж ахвяруе на шчасце апошнія сілы.

## Паверыць у восень

Хочацца верыць,
Што гэта лістота ўваскрэсне.
Ціхі агонь заірдзеў
Між задумлівых дрэў.
Шызых нябёсаў
Ліецца панылая песня.
Як зразумець
Гэты слёзна-трывожны напеў?

Хочацца верыць,
Што вернуцца птушкі дадому.
Іншага дому
У іх і ў мяне не было.
Сэнс гэтай восені
Я да канца не ўсвядоміў.
Толькі б вярнуліся птушкі
І ўсё ажыло.

Хочацца верыць,
Што восень палюбіць паэтаў.
Кожны згарэлы лісток –
Ненапісаны верш.
Кроплі дажджу неўгамоннага –
Безліч сусветаў.
Чулую восень
Палюбяць паэты найперш.

Хочацца верыць у восень,
Якая не плача.
Полымя не пагасае ў пагоднай душы.
Стану між клёнаў крамяных
І, можа, на ўдачу
Кіну лісток у калюгу
На слізкай шашы.

## Рэкі

*Віталю Скалабану*

Калісьці і сонца
Ў сцюдзёных нябёсах астыне…
Ды сёння жыццё
Нам умовы дыктуе свае.
І рэкі ў нямы тагасвет
Накіроўваюць плыні…
Бяссонныя рэкі…
Ім сілы даўно нестае.

Адкуль тая сіла…
Яна, як стагоддзяў магіла.
Равуць па-над прорвай бяздоннай
Вятры-змагары.
Прымружыцца неба,
Што наша жыццё бараніла, –
І рэкі выкручваюць плыні
Ў крутыя віры.

Над прорваю – людзі,
Як дрэвы.
І пахне жывіцай.
І выкрыкне хтосьці ў пустэчу
Надрыўна:
“Жыві!”
А неба самотна і стомлена
Ў рэкі глядзіцца…
Блакітнае неба –
У рэкі блакітнай крыві.

* * *

Вольны ў поспехах
і вольны
у няўдачах.
Хтосьці – ўсхваліць,
Хтосьці – пракляне.
Абураюся на лёсы,
што ў нястачы,
Калі думкі топяцца ў віне.

Я – вандроўнік
на чарговым скрыжаванні.
Хтосьці – ўбачыць,
Хтосьці – праміне.
Скарб душы –
адказ на вечныя пытанні –
Адшукаць бы
на халодным дне

Вольнай памяці.
Лятуць гады,
як зоры.
Хтосьці – зловіць,
Хтосьці – не.
Далягляду
супярэчлівыя ўзоры
Так выразна
бачу я
ў жыццёвым сне.

## Расчараванне

Цалуюць шыбу
Клічнікі дажджу,
Пытальнікам
Скруціў лістоту вецер.
Найлепшы час
Прызнаць,
Што не жыву, –
Страшнейшае
Расчараванне ў свеце.

Тунель з аскепкаў
Дзённай мітусні
Не выпусціць,
Пакуль не згасне вечар.
Удары сэрца
Прагнуць цішыні,
Калі жыццё
Марнуецца на вецер.

Трымценне зор –
На палатне акна,
Спакою кроплі
Змыюць думак смецце.
Ад безвыходнасці –
Глыток віна,
І не задасць пытанняў
Нудны вецер.

**Споведзь аркушу**

Прыткі, расхлістаны вецер
Пакінуў прастуджаны двор.
Змоклым вандроўнікам вечар
Блукае пад кроплямі зор.

Мокрымі вокнамі хата
Глядзіць у асенні садок.
Паруе духмяна гарбата,
І словы кладуцца ў радок.

Ноч мне дыктуе:
– Пішы
Таемную споведзь душы.

Поўня з-за хмары цікуе,
Пагляд за алоўкам вядзе,
Цень-крыжык, нібыта бракуе, –
На спісаны аркуш кладзе.

## **Душа паэта**

Не вярнуць санцавокага лета,
Не забыць тапалёвых завеяў.
А душа маладога паэта
Зачарована спевамі феяў.

Углядаецца ў далеч сівую
Час
Вачыма пакрыўджаных зораў.
Дотык радасці вусны мілуе,
Заварожвае веліччу мора.

Блудзяць цені забытага лета,
Вецер грыву ў чароце хавае,
А душа маладога паэта
Жаўруком аж пад сонцам спявае.

## **Паэт і кат**

Паэзія –
Душы нясцерпны боль,
А плач –
Пакора прад магутным словам.
Забойцу-кату знак падаў кароль,
Ухвалены натоўпу дзікім ровам.

І над паэтам меч, нібы крумкач…
Заплакала цнатлівая гартэнзія.
Боль, выліты праз слёзы, –
Проста плач,
А словам выказаны боль –
Паэзія.

## Самота цішыні

Радкі і рыфмы…
Дрэмле позні час –
Душы збанкрутаванай
Ачышчэнне.
Вужакі думак
Сочаць за натхненнем,
А я шукаю сэнс,
Што сярод нас.

І лёгкім забыццём
Наліты свет.
Ірдзее лёс
На шкельцы цыферблата.
Дыханне словаў –
Голасу пачатак,
Душы дыханне –
Цішыні санет.

Паўзмрокам уладарыць
Мараў рой.
Прасторай часу
Ахвяруе вечнасць
І выправіць
Зямную недарэчнасць, –
Самота цішыні
Не ёсць спакой.

## Мера свабоды

Чарговы дзень мінуў у барацьбе
За шчасце, што знікае, як хімера...
Свабоды ўсмешка мроіцца табе.
А я ў яе карысць сумніўна веру.

На аркуш поля боязна ступлю
У гуле завірухаў адзічэлых.
Свабода разнявольвае зямлю.
Зноў стану
Круг жыцця чарціць няўмела.

Хоць пра свабоду столькі гучных слоў,
Ды мераю якой свабоду мераць?
Бяжыць мая свабодна ў жылах кроў.
У кроне вольна гушкаецца месяц.

А ў думках ці змяшчаецца сусвет?
А ў дзеяннях быць можа толькі воля?

У гордым вершы вольны быў паэт
На аркушы заснежанага поля.

* * *

Сівая ноч
Хавае твар за небакраем,
Нібы саромеецца
Ў вочы зазірнуць
Паэту маладому,
Што жадае
Пад зорным небам
Сэрца музы
Закрануць.

Ён не дарэмна папрасіў
Спагады ў лёсу –
Даўно ў палоне
Супярэчлівасці дум.
Паэт
Акіне позіркам нябёсы,
Схавае ў вечным забыцці
Няўмольны сум.

Сівая ноч
Пакіне шнары на аблоках…
І невымоўная абудзіцца душа
Паэзіі,
Каб узляцець высока –
У промнях ясных
Аж да зорнага каўша.

* * *

Я малюю твар душы
На небе сонным,
У вачах шукаю
Колер дабрыні,
Каб пазбыцца прагі
Ў сне бяздонным
Маляваць і нішчыць
Цемры карані.

Супыніць
Гульню ў жыццё
На вейцы часу,
Грэшнае, бяскрыўднае –
Забыць.
На шляху
Да непадступнага Парнаса,
Як пашчасціць –
Ісціну здабыць.

* * *

Паэзіі вясковая душа
Блукала між сівых муроў сталіцы.
Прыйшоў паэт журботны
Да крыжа
Вандалам апаганенай капліцы.

Адчуць душы блуканні па зямлі
Ён здолеў
І заплюшчыў вочы з гора…
І думы-мроі ў неба паплылі,
Як ветразі асвенчаныя ў мора.

І стогн паэта скалануў сусвет
Паэзіяй,
Чысцейшай за крыніцу…
Стаяў шчаслівы, як анёл,
Паэт
Каля душой асвечанай капліцы.

* * *

Паэт на волю выпускае звера…
Паэт шукае ўцешлівыя словы,
Нібы дарма растрачаную веру
Жадае адшукаць
У зорных сховах.

Разбураныя памяццю святыні
Баляць душы самотнага паэта.
Зіхцяць на небе
Зорным павуціннем
Яго жыццесцвярджальныя санеты.

Паэт не жыў мінулым,
Што не зведаў,
І радаваўся,
Як дзіця, заранцы.
На волі звер,
Навокал процьма бедаў.
А ён імчыць у пастку
На маланцы…

## Цень

Палон мuроў халодных і магутных
Згрувасціў цені вокал лямпы цьмянай.
Тут не убачыць слёз маіх пакутных,
Маёй душы да сэрца разарванай.

Хаўрус мацуюць сілы шатанскія,
Рагоча ў твар драпежнае стварэнне.
І выйшлі з ценю вылюдкі, якія
Пасеклі жыццяноснае карэнне.

Так прагнеш жыць, калі цябе чакаюць...
Знясілеў, не пачуты, крык жадання.
Апоўначы ахвяру пахаваюць,
Пакрыўшы ценем твар на развітанне.

**Не для нас**

Нам наканавана бясконцасць,
Але мы захапляемся надзёнынм.
Асепленыя бесклапотнай ілюзіяй часу,
Скіроўваем дапытлівы погляд вачэй
Туды, дзе нас чакае вечнасць,
Дзе кожная мара баліць уваскрашэннем душы,
Куды пругкім промнем імкнецца думка,
Дзе кружляюць,
Не зважаючы на нашы захапленні,
Буслы.

* * *

Гарацъ забытых летапісаў скруткі,
Струменіць поўня крохкае святло.
Як лёс,
Рыпяць пацёртыя прыступкі.
Аслепла рэчаіснасць мне назло.

У сне шарэе раніца пустэчы –
Прытулак адзіноты і трывог.
Хімерныя прымаюць формы рэчы,
Дрымота ночы сыдзе за парог.

Надзеі паміраюць у руціне.
Так невыносна бессэнсоўна жыць.
У храме,
Нібы з мёртвае карціны,
Жалобная мелодыя гучыць.

* * *

Калі душа ператвараецца ў анёла,
Калі нябёсы ахінаюць цемрай нас, –
Расчараванняў запавольваецца кола
І надыходзіць першапачатковы час.

Калі пачуццяў усе повязі мацнеюць,
Калі, як снайперскімі кулямі – грахі, –
Зямныя сэрцы ад пакутаў не чарсцвеюць,
Не памірае слодыч мараў ад тугі.

Гучаць нябёсныя мелодыі наўкола,
Далёкіх продкаў чуцен клятвенны наказ.
Калі душа ператвараецца ў анёла,
Яна расказвае Ўсявышняму пра нас.

* * *

Мне будучыня адкрывае візу…
Далей ад забыцця, далей ад болю!
Пагладжу грыву сонечнаму брызу
І выпушчу ў пакутны свет на волю.

Шырэе цесны шлях за невядомым,
Прарочыць дзён святло і цемру ночаў.
А вецер стаў да радасці знаёмым!
Ён попел тленных год развеяць хоча.

Ды ў сэнс сваіх вандровак я ці ўнікну?
І грыву ветру хто яшчэ пагладзіць?
Таму, самотны, нечакана знікну
У заўтрашнім дрыготкім далеглядзе.

## Зіма ў дэпрэсіі

Зіма ў дэпрэсіі свае пакіне цені,
І ад вар'яцтва не ўратуе нават смех.
І пачарнеюць ад пакутаў летуценні,
І успамінам ачарсцвелым стане снег.

Зіма ў дэпрэсіі чакае дапамогі.
Плывуць аблокі, як душы чарнавікі.
І плача лес уздоўж самотнае дарогі,
І, пахіліўшыся, стаяць снегавікі…

## **Не ўмёрлі мы**

Абернецца бясконцасць у імгненне,
І на камлыгу лёсу лягуць слёзы.
Патрэсканае вечнасцю каменне
Распаліцца карой старой бярозы.

Спакус былых развеюцца пажары,
Што чыстыя памкненні спапялялі.
Жыцця пад дых знянацкія удары
Нас падаць на калені прымушалі.

Імчацца коні памяці бязмежнай.
Глыбокай ночы высахла рака.
З далоні немаўляці незалежнай
Свет зведаў водар краскі-васілька.

Прасветліцца свядомасцю сумленне,
Туман надзей ахутае дамы.
Сябе спазнаўшы, наша пакаленне
Дакажа свету, што не ўмёрлі мы.

* * *

Няма каму сказаць:
“Да пабачэння”.
Чарговы эпізод жыцця пагас.
У прыцемках туманных сутарэнняў
Абражаны хлуснёй блукаў не раз.

Нябёснай асалодай наталіцца
Ці здолее сасмяглая душа?
Ды лёс мой –
Заўтра зноўку нарадзіцца
І піць каханне з зорнага каўша.

Пяе за шыбай вецер калыханку
На мове, зразумелай толькі мне.
Хвіліны падкрадаюцца да ранку.
Іх не спыніць,
Як не спыніць мяне.

Спяшацца ў заўтра, як агню, баюся.
Саломінку надзеі лёс падаў.
І выбар зроблены.
Я застаюся
У тым жыцці, якое Бог мне даў.

**ЗМЕСТ**